facebookwkhpilnemxj7asaniu7vnjjbiltxjqhye3mhbshg7kx5tfyd.onion
(2022-11-21)

# Пётра Садоўскі - 21-ГА ЛІСТАПАДА –ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ...

Пётра Садоўскі

---

21-ГА ЛІСТАПАДА –ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ НЕПАСІЯНАРНАГА ЗАХАВАЛЬНІКА БЕЛАРУШЧЫНЫ Ў САВЕЦКІ ЧАС: АЛЯКСАНДР ПАДЛУЖНЫ

І прыйдзе новых пакаленняў
На наша месца грамада
Судзіці суд, ці мы сумленна
Жыццё прайшлі, ці чарада
Зняваг мінулых нас не з'ела,
Пакінуўшы свой дым і чад,
І мы па-даўняму нясмела
Жылі не ўлад і неўпапад? (Янка Купала)

ЦІХІ ПАМЯРКОЎНЫ БЕЛАРУС

Аляксандр Іосіфавіч Падлужны памёр у гэты дзень ва ўзросце 70 гадоў. Пасля філфаку БДУ і працы ў вясковай школе прыйшоў у Інстытут мовазнаўства, дзе застаўся на 43 гады. Аспірант, загадчык лабараторыі эксперыментальнай акустычнай фанэтыкі, дырэктар Інстытута, прафесар, акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў. Член КПСС.

Бацька-заснавальнік беларускай фаналогіі. Аўтар фундаментальнага даследавання ў суаўтарстве з Валерам Чэкманам “Гукі беларускай

мовы” з палатаграмамі, адантаграмамі, асцылагамамі, спектраграмамі, схемамі і табліцамі. Мой навуковы кіраўнік. З удзячнасцю помню.

Пра тыя гады можна шмат што ўзгадваць. З жыцця Аляксандра Падлужнага мне не забываюцца два незвычайныя эпізоды. І першы і другі звязаныя з ягонай навуковай дзейнасцю.

Першы такі. Побач з галоўным корпусам АН БССР ў абласной клінічнай бальніцы працаваў прафесар –аталарынголаг, прасцей ЛОР-доктар, з вельмі беларускім прозвішчам – СКЛЮТ.

Гэтае прозвішча мяне вельмі зацікавіла і запомнілася, бо мы ў сям'і , браты і сястра , дражнілі сярэдняга брата Толіка "склют", за што маці на нас моцна сварылася. Толік у адрозненне ад мяне і старэйшага брата Міці быў вельмі худы. Тлумачылася гэта тым, што ў нас у Будзькаўшчыне, дзе прайшло маё дзяцінства, склютом называлі лёгкую тонкую сякеру амаль без "шчок са звычайным тапарышчам, напрыклад, для вычэсвання гонты.

На жаль, проста набраўшы ў гугле па-беларуску "доктар оталярынголаг Склют", я нічога не знайшоў. Помню, доктар Склют гаварыў нешта пра свой нос, калі тлумачыў паходжанне свайго прозвішча. Дакладнага імя і імя па бацьку не памятаю.

У час прыёму хворых з беларускіх вёсак ён заўважыў падазрона высокі працэнт глухіх сярод пажылых людзей. Гэта выяўлялася пры традыцыйным першым кантролі слыху: доктар шэптам вымаўляў лічбы ці словы на адлегласці 2-3 метры ад пацыента, які павінны быў распазнаць слова, прыкрываючы вуха рукой стоячы адкрытым вухам да доктара. Потым паўтарыць уголас пачутае.

Доктар Склют быў, як бы цяпер сказалі, нацыяналіст: з вясковымі гаварыў на працы па-беларуску. Звярнуўся па дапамогу да нас у лабараторыю. Высветлілася, што дактары, традыцыйна называючы на расейскай мове не толькі словы-часткі цела, але і лічбы (кшталту 14, 60, з мяккім Ч, “голова” з выбухным Г, “шея” – не ШЫЯ і з “невелярызаваным” неагубленым і г. д.) не ўлічваюць, што беларусы-вяскоўцы з некаторых мясцін, напрыклад, выбухное Г чуюць як К, а 14

ці 60 не распазнаюць з прычыны рознага націску ў расейскай і беларускай мовах і г. д.

Вынікам супрацоўніцтва фанолага Падлужнага і ЛОР-доктара Склюта стала АЎТАРСКАЕ ПАСВЕДЧАННЕ з табліцай слоў і сімвалаў на беларускай мове для выяўлення ступені страты слыху. Прыкладаўся дадатак-каментар з улікам дыялекталагічнага атласу, складзенага ў час моўных экспедыцый.

Гэтым зацікавіліся сувязісты і прыкладныя акустыкі, што даследуюць тыповыя памылкі ў каналах сувязі . Прыклад: я запісваюся ў паліклініку па тэлефоне як Садоўскі, а ў рэгістратуры запісваюць Фадоўскі. Характарыстыкі глухіх зычных Ф (губна-зубны выбухна-працяжны) і С (міжзубны свісцячы працяжны) супадаюць у пэўных акустычных пазіцыях перцэпцыі.

Пазней у працяг тэмы мы пачалі працаваць у фармаце гаспадарчага дагавору з рэжымнай "паштовай скрынкай" -- Інстытутам далёкай сувязі ў Ленінградзе, дзе мне прышлося займацца "акустычнай інтэрферэнцыяй" пры беларуска-расейскім білігнгвізме, доследамі "геліевага маўлення" у закрытай прасторы і г. д.
Мы даследавалі "псіхафанэмы" рускамоўных прызыўнікоў з сельскай мясцовасці ды іхных беларускамоўных бацькоў. Вясковымі інфармантамі былі ў асноўным жанчыны.

Мінімальныя акустычныя разыходжанні, якія не ўлоўлівае вуха, для электроннай дыскрымінацыі (адрознення) з'яўляюцца рэлевантнымі (істотнымі) дадатковымі сігналамі. На такім птушыным жаргоне для недасведчаных мы пісалі справаздачы для нашых заказчыкаў з паштовай скрынкі на вул Чапаева ў Ленінградзе, якая фігуравала пад шыльдай "Фабрыка цацак". ))

Другі кур'ёз ( чымсці паскудны і сацыяльна-лінгвістычна афарбаваны) адлюстраваўся у тэксце БСЭ (том 2, артыкул БССР) у абзацы, пісаным маскоўскім прафесарам-фанолагам Уладзімірам Жураўлёвым. У раздзеле, дзе сярод гуманітарных даследаванняў узгадвалася і мовазнаўства, у прозвішчы "Падлужны" пасля этымалагічнай прыстаўкі "памылкова" з'явілася літара "С".

Рэч у тым, што маскоўскаі свяціла-фанолаг Уладзімір Жураўлёў і расейскі аўтар нататкаў пра беларускую фаналогію Цімафей Пятровіч Ломцеў былі ў свой час аб’ектамі даволі глыбокай і далікатнай крытыкі Аляксандра Падлужнага. У беларускай фаналогіі яны ўсё трактавалі з пункту погляду расейскай мовы. Напрыклад, называлі беларускія “пярэднепалатальныя прэдарсальныя” мяккія С, З, Ц, Дз “шапялявыя”. На жаль, гэта ўскосна перайшло і ў манаграфію “Гукі беларускай мовы”, у якой пры ўсёй арыгінальнасці даследавання аўтары мусілі рабіць рэфлексы на расейскіх папярэднікаў.

Масковец Жураўлёў, знешне падобны мне на папа-расстрыгу з жыдкай барадзёнкай, іржава-насмешліва хваліўся: “Во як я ўеў беларускага Ламаносава-мовазнаўцу!”. Генадзь Цыхун, доктар, прафесар, балгарыст, пажартаваў: масковец залез праз адно месца і ўкусіў менчука за гнётку ...

А Ломцеў, дарэчы сказаць, быў у свой час, працуючы ў “НИИ языкознания», актыўным пагромшчыкам мовазнаўцаў-нацыяналістаў . Адзін час нават узначальваў аб'яднанне ваяўнічых лінгвістаў ЯЗЫКОФРОНТ.

ЧАМУ, ПАМІНАЮЧЫ ПАДЛУЖНАГА, Я ЗГАДАЎ КУПАЛАЎСКУЮ СТРАФУ ПРА "ДЫМ І ЧАД"?

Маладзейшыя, якія не маюць гуманітарнай адукацыі і далучыліся да беларушчыны ў апошні час, нават у цяперашні спецыфічны момант, застаюцца надзвычай крытычнымі да “саветызаванай” спадчыны нашых беларускіх вучоных-гуманітарыяў.

Мае таленавітыя равеснікі, каб стаць дырэктарам завода, уступалі ў КПСС. Каб абараніць дысертацыю, у першыя тры пункты спісу літаратуры мусілі ўключаць творы класікаў марксізму-ленінізму. Каб паехаць за мяжу на навуковую канферэнцыю, праходзілі атэстацыю ў 1-м ці 2-м аддзеле ўстановы. Усе супрацоўнікі СМІ, што сутыкаліся з замежнікамі, мусілі кантактаваць з прызначанымі куратарамі і г. д.

Раблю я гэта, каб дастукацца да адважных постмадэрных крытыкаў, якія бясстрашна топчуць мёртвых ільвоў. Для іх Янка Купала -- Каян Лупака. Яны не прачытаюць вам на памяць ніводнага верша Генадзя Бураўкіна, але чулі, што ён напісаў паэму “Ленін думае пра Беларусь” … Мадэрнаму мастаку , што працуе ў стылі "амаль кубізм", быкаўская акопная проза смярдзіць парцянкамі і потам. Іншы, што экзамінуе савецкіх беларускіх класікаў паводле гамбурскага рахунку, гатовы запіхаць Быкава ў бутэльку з муранскага шкла і пусціць уніз па цячэнні … Паскандаляць і самі пастаяць каля пастамента класіку.

Ідучы за модай часу, яны навекі палюбілі глыбакадумныя без рыфмы і рытму, у слупок і радок напісаныя банальныя сэнтэнцыі-сафізмы кшталту “СУТВА нязробленага палягае ў тым, што яно нязробленае …” .

У час нашых традыцыйных “чайных пасядзёнак” у беспамерных абедзенных перапынках сярод разнамасных куплёных і самаробных электронных спарудаў лабараторыі мы абмяркоўвалі і навінкі беларускіх літаратараў і публіцыстаў-эсэістаў.

Абмяркоўваліся новыя вершы і аднаго рэзанаснага маладога паэта, які ад сілабатонікі рашуча пераўшоў да нерыфмаванай паэзіі, надаючы гэтай сваёй метамарфозе і пэўны светапоглядна-палітычны флёр.

Калі паэтычна адораны творца, без глыбокага асэнсаванага нацыянальнага грунту, парваўшы з рабскім маўчаннем і здзесніўшы адважны грамадзянскі учынак, напісаў твор, назваўшы яго АДРАЧЭННЕ (ад фальшывага мастацтва) і пачаў прыдумляць новыя словы, схаластычныя сафізмы, выдаючы гэта за вялікае літаратурнае адкрыццё, -- ці зможа хоць хто-небудзь ПА ЧАСЕ (праз некалькі гадоў) узнавіць па памяці ягоныя нерыфмавагныя мудрасці?

Гаварылася: нязвыклыя светлацені халоднага “актуальнага” постмадэрнага наватарства прыцямняюць сапраўднае хараство простага мастацкага адлюстравання свету, усмерчваюць тое, што магло б стаць вечнай класікай.

Аляксандр Падлужны быў моўным кансерватарам крапівоўскай эпохі нармалізатарства, калі займаў высокія адміністрацыйныя пасты. У той жа час па-бацькоўску аберагаў неспакойных маладзейшых ад неабдуманых франдзёрскіх учынкаў, якія б маглі пашкодзіць “уцелаўленню праяваў высокага таленту”, як ён дасціпна з добрай усмешкай іранізаваў.

Выдатна валодаючы апаратам структуранй лінгвістыкі і слэнгам англамоўных навацый Ноама Чомскі (Навума Хомскага), часам ён, уваходзячы ў “мярлог” нашых інжынераў, дзе мы “чаёўнічалі”, тварыў іранічныя пасажы як гэты: “Во избежание эфекта, проистекающего из третьего постулата Рэхенбаха, рекомендую вам не ставить знак акута на третьем возникающим члене квазибинарной оппозици .., а вярнуцца да працы штодзённай шэрай …

Ягоны унёсак у беларускую філалогію пакуль не асэнсаваны ў шырокім коле грамадства. Ён быў чалавек-мурашка. Усе палявыя запісы супрацоўнікаў лабараторыі. зробленыя сумесна з сектарам дыялекталогіі (жывая мова носьбітаў розных гаворак) пры ягоным жыцці, не былі ў апошнія дзесяць гадоў пераведзеныя ў лічбу і спарахнелі без патрэбнага мікралімату на магнітафонных стужках.

PS
Пэўна, з прычыны апісанага, як шмат хто з беларускіх культуртрэгераў, Аляксандр Іосіфавіч не быў пасіянарыем: ягоная жонка і дзеці размаўлялі дома і на людзях па-расейску. Званю дадому: “Папа, -- тебя Садовский …». На мемарыяльным пасяджэнні пашыранага навуковага савету Інстытута мовазнаўства, куды я быў запрошаны як адзіны жывы колішні калега з лабараторыі эксперыментальнай фанэтыкі, прысутная, таксама запрошаная, дачка выступала па-расейску. Было балюча.

На фота: У лабараторыі эксперыментальнай акустычнай фанэтыкі Інстытута мовазнаўства АН БССР. Аляксандр Падлужны ў цэнтры. Злева ст. інжынер Эдуард Якушаў, аспірант А. Андрэеў (з вусамі), праф. доктар ст.н.с. Лілія Выгонная, аспірант І. Бурлыка, ст. н. с.. П. Садоўскі